# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Рэдагуе Калегія, Адрыс Рэдакцыі:** **Цана 1 даляр**

**"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 40 СЬНЕЖАНЬ — 1973 DECEMБER ГОД. 19**


## *ХРЫСТОС РАДЖАЕЦЦА*

*Нараджэньне Тваё, Хрысьце Божа наш, азарыла сьвет сьвятлом розуму; у ім-жа, зоры вывучаючы зоркаю навучоныя Табе пакланяцца, Сонцу Праўды, і Цябе пазнаваць з вышыні усходу, Госпадзе, слава Табе.*



# АРХІПАСТЫРСКАЕ КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму Сьвятарству і ўсім Багалюбным Праваслаўным Вернікам Народу Беларускага на чужыне й на Бацькаўшчыне.**

...Угледзеўшы-ж Зорку, яны ўзрадаваліся радасьцю надзвычайнаю" (Мацьв. 2, 10).

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!

Урачысты сьпеў Ангелаў Божых і Сьветлая Радасная Зорка абвясьцілі людзям Нараджэньне Богачалавека. Нарадзіўся Сам Бог і Спас наш Ісус Хрыстос, каб уцьвердзіць на зямлі Уладарства Божае. Уладарства супакою, дабра, праўды, красы, любові, даскаласьці й шчасьця для ўсіх. Прыйшоў, каб прынесьці Сьвятло Нябеснае ў цемру жыцьця людзкога, каб ніхто ня блудзіў, шкоды не рабіў, а тварыў дабро для сябе й для іншых. Таму й зазьзяла сваім сьвятлом Нябесным Зорка Бэтлеэмская.

Прыход Хрыста на зямлю ня быў неспадзяваным. Людзі здаўна чакалі Яго, як Уладара Неба й Зямлі. Для шматлікіх быў адкрыты Ягоны прыход, бо гэта абвесьціў Сам Бог Айцец праз Сваіх пасланцоў — прарокаў. Сотні лет наперад прарок Ісайя казаў: „Вось Дзева займе ў улоньні й народзіць Сына, і наракуць імя Яму Эмануіл, што азначае — З намі Бог, (Іс. 7, 14). А прарок Міхей таксама сказаў: „І ты, Бэтлеэм, ці-ж малы між тысячамі Юдавымі? Бо з цябе выйдзе Той, Які паходзіць ад пачатку, ад дзён вечных" (Міхей 5, 1).

І Хрыстос пасьля сказаў: „Папраўдзе кажу вам, раней чым нарадзіўся Аўраам, Я быў". А ў іншым месцы Ён у Сваёй Малітве да Бога Айца сказаў: „А цяпер, Война, праслаў Мяне Ты ў Цябе Самога тэй славаю, якую я меў у Цябе раней існаваньня сьвету (Ян. 17, 5).

Вялікае, радаснае й слаўнае для нас Сьвята Нараджэньня Хрыстовага. У гэтае Сьвята навет той, хто ня хоча верыць у Яго, усё-ж адчувае нейкую незразумелую яму радасьць. А гэта таму, што ён мае душу, і душа яго таксама ймкнецца да Сьвятла Зоркі Бэтлеэмскае, да Хрыста, як Бога свайго, і жадае прыняць удзел у вялікай радасьці, супольна з вернікамі Хрыстовымі

Спасьцерагаючы сучаснае неспакойнае жыцьцё, апавітае супярэчнасьцямі й злом, і назіраючы развой падзеяў ня толькі па сьвеце, але ў большых і меншых грамадах, улучна й з нашаю беларускаю грамадзкасьцю на эміграцыі, як-жа моцна трэба пажалець, што людзі, як у палітыцы, так і ў штодзённым жыцьці, ня кіруюцца тою Праўдаю, якую прынёс нам народжаны ў Бэтлееме Хрыстос Бог.

Раджэньне Хрыстовае — Вялікае Сьвята Сусьвету. Яно глыбака ўплывае на тых, хто ў шчырасьці спатыкае й праводзіць яго. Упрыгожанае адухоўленымі, глыбоказьместоўнымі царкоўнымі Багаслужбамі ды традыцыйнымі народнымі звычаямі ў духу хрысьціянскае







*ВЫСОКАДАСТОЙНЫХ УЛАДЫКАЎ НАШЫХ*
*МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ,*
*ЕПІСКАПА МІКАЛАЯ,*
*Пачэснае Сьвятарства, Рэгентаў і Харыстых,*
*Грамадзкія ўстановы, вернікаў БАПЦарквы*
*і ўвесь Беларускі Народ на Бацькаўшчыне й на чужыне*
*Вітаем*
*з Нараджэньнем Хрыстовым*
*із Новым 1974 Годам!*
**Епархіяльная Управа**

любові, яно адраджае ў сьведамасьці й сэрцы чалавека Хрыстовыя запаветы, абуджае любоў, веру й надзею на лепшую будучыню й збліжае чалавека да Бога.

Нараджэньне Хрыста прынясло вялікую радасьць усяму сьвету — радасьць збавеньня ад грэху. Хрыстос нарадзіўся й абнавіў сьвет вечным Сьвятлом Праўды Божае. На жаль, на сьвеце яшчэ зашмат зла й перашкод, каб радасьць гэтая была для ўсіх, каб радасьць была поўная. Гэтае поўнае радасьці чакаюць і нашыя дарагія суродзічы ў Беларусі, пазбаўленыя волі й навет магчымасьці ў супольных малітвах спалучацца з Богам у Роднай Царкве. І яны цешацца кажнаю добраю весткаю пра нас, асабліва такою, якая сьветчыла-б, што мы не адракліся Бацькаўшчыны й Царквы нашых дзядоў і прадзедаў, што мы жывём ня толькі для асабістых выгадаў, але дбаем, каб прысьпешыць дзень Усебеларускага Вялікадня. Няхай нашым падарункам для нашых братоў і сёстраў на Бацькаўшчыне будзе вестка, што існуе і ўзрастае нашая Родная Царква ў краінах вольнага сьвету, якая аб'ядновае добрых дзяцей народу.

У гэты радасны дзень Раджэньня Хрыстовага ад шчырага сэрца й радаснае душы вітаем вас, Дастойныя Айцы й Любыя Браты й Сёстры, з Вялікім Сьвятам Хрыстовага Першага Прыйсьця й з надыходзячым Новым Годам. Няхай Нованароджаны Збаўца Сьвету напоўніць Вашыя сэрцы тымі пачуцьцямі й тым шчасьцем, якім былі напоўнены душы пабожных пастушкоў. Няхай у гэтым Новым Годзе Госпад Бог шчодра абдарыць Вашую працу й Вашыя добрыя імкненьні ўспамогаю на дабро асабістае й разбудову Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы па ўсіх краінах сьвету нашага сучаснага бытаваньня.

Ласка й Супакой Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога Айца й Лучнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі, цяпер і заўсёды й павек вякоў. Амін.

З Ласкі Божае

Каляды,
Лета Божага 1973.

**✠ Пакорны ў Богу Мітрапаліт Андрэй**
**✠ Пакорны ў Богу Епіскап Мікалай.**

## ЭВАНГЕЛЬЛЕ АД МАЦЬВЕЯ — 2

Калі Ісус нарадзіўся ў Бэтлеэме Юдэйскім за караля Ірада, вось прыйшлі мудрацы з Усходу да Ерузаліму і кажуць: „Дзе ёсьць народжаны кароль Юдэйскі? Бо мы бачылі зорку Ягоную на Ўсходзе й прыйшлі пакланіцца Яму.

Пачуўшы гэтае, кароль Ірад занепакоіўся, а з ім і ўвесь Ерусалім.

І склікаўшы вышэйшае сьвятарства й кніжнікаў народных, выпытваў у іх: дзе прызначана нарадзіцца Хрысту?

Яны-ж сказалі яму: у Бэтлеэме Юдэйскім, бо гэтак напісана праз прарока:

„І гы, Бэтлеэме, зямлі Юдава, нічым ня меншы ў ваяводзтвах Юдавых, бо з цябе выйдзе Правадыр, які кіраваціме народам Маім Ізраільскім" (Міх. 5-2).

Тады Ірад, употай прызваўшы мудрацоў, выведаў ад іх час зьяўленьня зьвязды.

І, паслаўшы іх у Бэтлеэм, сказаў: „Пайдзеце, дакладна даведайцеся пра Дзяцёнка, і калі знойдзеце, паведамце мяне, каб і я мог пайсьці пакланіцца Яму.

Яны, выслухаўшы караля, адыйшлі. І вось зорка, якую бачылі яны на Ўсходзе, ішла перад імі, аж пакуль, дайшоўшы, запынілася над месцам, дзе было Дзіцятка.

І ўгледзеўшы зорку, яны ўзрадаваліся радасьцю надзвычайнаю.

І ўвайшоўшы ў будыніну, убачылі Дзіцятка з Марыяй, Маці Ягонай, і паўшы ніц, пакланіліся Яму; і адчыніўшы скарбы свае, прынясьлі Яму дары: золата, ладан і сьмірну.

Атрымаўшы-ж у сьне перасьцярогу не варачацца да Ірада, іншым шляхам адыйшлі ў краіну сваю.

Калі-ж яны адыйшлі, вось Ангел Гасподні зьяўляецца ў сьне Язэпу й кажа: „Устань, вазьмі Дзіцятка й Маці Ягоную й бяжы ў Эгіпет і будзь там, дакуль не скажу табе, бо Ірад хоча шукаць Дзіцятка, каб загубіць Яго".

Ён устаў, узяў Дзіцятка й Маці Ягоную і ўночы пайшоў у Эгіпет.

І быў там да сьмерці Ірада, каб збылося сказанае ад Госпада праз прарока, які гаворыць: „З Эгіпту паклікаў Я Сына Майго" (Осія, ІІ-І).

Тады Ірад, зазнаўшы зьнявагі ад мудрацоў, разьярыўся гневам і паслаў выбіць у Бэтлеэме й усіх ваколіцах яго ўсіх дзяцей, ад двух год і ніжэй, подля часу, выведанага ад мудрацоў.

Тады збылося сказанае праз прарока Ерамію, які гаворыць:

„Голас у Раме чуцён, плач, галашэньне й лямант вялікі; Рахіль плача па дзецях сваіх і ня хоча суцешыцца, бо няма ўжо іх". (Ерам. — 31-15).

Калі-ж Ірад памёр, вось Ангел Гасподні ў сьне зьяўляецца Язэпу ў Эгіпце і кажа: „Устань, вазьмі Дзіцятка й Маці Ягоную ды йдзі ў зямлю Ізраілеву, бо зьмерлі тыя, якія шукалі душы Дзіцяці".

І ён, устаўшы, узяў Дзіцятка й Маці Ягоную й прыйшоў у зямлю Ізраілеву.

А дачуўшыся, што ў Юдэі ўладарыць Архелай на месцы бацькі свайго Ірада, пабаяўся туды йсьці; і, атрымаўшы вестку ў сьне, пайшоў у краіну Галілейскую.

І, прыйшоўшы, пасяліўся ў месьце, званым Назарэт, каб споўнілася сказанае праз пракрокаў: „Ён Назарэем назавецца".



# ПАМЯЦІ СЬВ. ЕФРАСІНІ ПОЛАЦКАЙ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

„Жыве ў нашым народзе памяць пра Ефрасіню Полацкую. Яе імя ня сьцерлася ў бурных падзеях гісторыі, і час не засланіў яе вобраз ад нас. Такое выпадае на долю толькі выдатных людзей. І сапраўды, Ефрасіня Полацкая адной з першых адкрывае шэраг слаўных іменаў, народжаных зямлёй Беларусі. Яна пакінула глыбокі сьлед у разьвіцьці культуры свайго народу".

Гэтак пачынаецца нарыс Міколы Ермаловіча пра Ефрасіню Полацкую пад тытулам „Луна солнечная", зьмешчаны ў часапісе „Полымя", № 8, 1973 г., Менск.

Яшчэ шырэй піша пра Сьв. Ефрасіню Архіепіскап Менскі й Беларускі Антоні ў нарысе „Преподобная Евфросиния Полоцкая" („Богословские труды" — выданьне Маскоўскай Патрыярхіі, № 9, 1972 г.). Артыкул навуковы, з шматлікімі спасылкамі на летапісы й працы іншых дасьледнікаў. У ім апісваецца Полацак XI-XII-га сталецьцяў, ягоная палітычная магутнасьць, даецца нарыс дзейнасьці князёўны й манашкі Ефрасіні, адзначаецца „шырокае распаўсюджаньне пісьменнасьці ў Полацкай зямлі", гаворыцца пра вялікі ўклад у гэта, як і наагул, у культурны поступ, Сьв. Ефрасіні. Арх. Антоні піша:

„Сьвяціцель Дымітры Растоўскі ў жыцьці Прападобнай Ефрасіні, зьмешчаным у Чэцьцях-Мінэях, бачыць насьледаваньне даўным ерусалімскім дзевам, жыўшым пры храме, і Самой Прасьвятой Дзеве, якая таксама жыла пры храме.

Найпраўдападабней, у Сафійскім Саборы Ефрасіню прыцягвала й бібліятэка, з кніг якой яна „могла преизлиха насытитися премудрости. И оттоле паче подвижнейши нача быти, собираюци мысли благия в сердце своем, яко пчела сот", — кажа пра гэта аўтар „Жития Преподобной".

Любоў да навукі не пакідала Прападобную. Але духоўнае прасьвятленьне было ў яе неад'емнае ад дзейнай любові да людзей, ад міласэрдзя. „И начат книги пісати, своими руками, и наем емлюшчи, требуючим даяше". Сваею працавітай рупнасьцяй яна адкрывае мудрасьць іншым людзям. Грошы, атрыманыя ад прадажы кніг, напісаных ею самою й нанятымі пісцамі, яна тайна раздае ўбогім. У каноне Прападобнай Ефрасіні працы яе пры перапісцы кніг прыпадабняюцца дальняму плаваньню, „Издалече собираюшчй Божественное богатство, яко далече ходя й корабль, борзописчиму персты добро писала еси", гаворыцца ў 7-й песьні (трапар — 2). Гэтым сабраным багацьцем Прападобная шчодра дзялілася з усімі. Знаўшы велічнасьць яе служэньня й ахвярнасьць, Епіскап Полацкі Ільля — згодна „Жыцця" — аднойчы атрымаў ад ангела Божага пацьверджаньне таго, што „почивает Дух Святый на ней", і наказ паставіць Ефрасіню начале асобнай храміны ў Сяльцы пад Полацкам.

Створаная Прападобнай жаночая школа — дзіўнае хоць і ня ўнікальнае зьявішча ў гісторыі старарускай культуры. Княгіня „собравши же младых девиц неколико, обучала писанию, такоже ремеслам, пению, шве-

нию и иным полезным им ремеслам, да от юности навыкнут разумети закон Божий и трудолюбие". Бацькі аддаюць сваіх дачок у школу Ефрасіні спакойна ды навет не падзіўляюцца з мовы настаўніцы пра тое, што яна не адпусьціць вучаніц да канца навучаньня. Валей іх трывожыла пастрыжэньне дочак.

Але асьветная праца Прападобнай Ефрасіні мела таксама вялікае духоўнае значаньне. Малітва й жорсткае, аскетычнае ахвяраваньне злучаліся ў яе з радасьцю прасьветы бліжніх. Сьвет духоўны й сьвет адухатвароных ведаў Прападобная несла ўсім, хто гэтага шукаў, уцьвярджаючы ў веры сябе й іншых. Паводля слоў канону Сьвятой, яна „на разумном камени храмину неподвижну создала" (Песьня 5, трапар І). Відомым вобразам гэтае храміны стаўся пабудаваны ў манастыры паводля мысьлі й рупнасьці Прападобнай знаменны Спаса-Праабражэнскі Храм".

Невялікі артыкул „Евфросиния Полоцкая" пратаерэя П. Вайтовіча зьмешчаны ў газэце „Голас Радзімы", № 21, 1973 г. У ім прат. Вайтовіч піша:

„Будучы высокаадукаванай, Ефрасіня, апрача малітваў, пісала летапісы, свае ўласныя творы й вершы, займалася перакладамі з грэцкай ды іншых моваў і перапісвала сьвячэнныя кнігі. Свае кнігі яна ўпрыгожвала арнамэнтамі й мініятурамі. У замену за рукапісы яна атрымлівала чысты пэргамэнт і грошы, якія раздавала на дапамогу бедным.

Паводля яе праектаў палачанін Ян напрацягу аднаго году збудаваў вылучны харавством і дакладнасьцю формаў каменны храм Спаса, фрэскі якога адзначаюцца высокім майстэрствам і глыбокім пранікненьнем у духоўнае хараство чалавека. Па яе настаўленьні будаваліся й іншыя храмы й рабіліся ў іх размалёўкі.

Наш народ шануе памяць Ефрасіні Полацкай, як падзьвіжніцы, асьветніцы, як міратворыцы ў пэрыядзе ўзаемных закалотаў паасобных князёў. Усе свае таленты Ефрасіня аддала свайму народу".

Чытаючы гэтыя нарысы духоўных асобаў, заўважаецца характэрнае зьявішча: ніразу не дапушчана слова „Беларусь", ці „беларуская". А слова „Сьвятая", з вялікай літары ўжытае толькі раз, а другі да слова „Русь". Архіепіскап Антоні, **Мінскі й Беларускі,** канчае свой нарыс гэтак: „Разам з Полацкаю зямлёю ўдзячна ўшаноўвае прападобную Ефрасіню і ўся Сьвятая Русь, верачы разам з укладальнікамі Жыцця, што „яко міро благовонно восходит молитва ея к Богу".

Гэтыя словы, як і накіраваньне ўсяго нарысу, паказваюць, нібы Архіепіскап Антоні хоча прысвоіць „Сьвятую Ефрасіню да „Сьвятой Руси", адняўшы Яе ад „грэшнай Беларусі". Ну, што-ж? Тымбалей мы павінны маліцца да свае Сьвятое Ефрасіні, каб заступілася прад Богам за народ свой.

Мікола Ермаловіч, пішучы пра славуты крыж Ефрасіні й пра напісаны заклён на ім, а таксама пра полацкае летапісаньне й бібліятэку, выказвае сумлеўныя меркаваньні, хоць-жа можа й лепш было-б, каб гэтыя меркаваньні былі праўдзівыя. На заканчэньне падаём ягоныя словы:

„Ёсьць зьвесткі, што цяпер гэты шэдэўр (Крыж — Рэд.) ляжыць у сэйфе аднаго з амэрыканскіх мільярдэраў. І гэтаму можна даць веры. Для жоўтага д'ябла, як і для фашыстаў, няма нічога сьвятога, і ён таксама ня з тых, хто баіцца праклянцьця. Але яно будзе заўсёды грозным асуджэньнем таго, хто як злодзей, прысвоіў сабе чужое.

Дзейнасьць Ефрасіні паспрыяла таксама зьяўленьню лепшых узораў полацкага жывапісу, пра што сьведчаць цудоўныя фрэскі, якія захаваліся ў Спаскім саборы. Адна з іх, на думку дасьледчыкаў, і ёсьць партрэт самой Ефрасіні. І з гэтым можна пагадзіцца: у ім адлюстраваны жывыя індывідуальныя рысы тагачаснай жанчыны.

Мае падставу меркаваньне, што з Ефрасіняй зьвязана ўзьнікненьне полацкага летапісаньня, а таксама заснаваньне бібліятэкі, неацэнныя багацьці якой былі зьнішчаны ў 1579-м годзе, у час узяцьця Полацка войскамі Стэфана Баторыя. (А ня войскамі Івана Грознага ў 1563 годзе? Калі было выбіта палова жыхарства Полацка, выпалены будынкі, а некалькі сот вазоў дабра было вывезена ў Маскву? — Рэд.).

Шматгранная дзейнасьць стварыла Ефрасіні шырокую вядомасьць і на радзіме й далёка за яе межамі. Усюды, як і на радзіме, яна карысталася любоўю й глыбокай пашанай.

У заключных радкох „Жыцця" сказана, што Ефрасіня „яко луна солнечная, просветивший всю землю Полоцкую". „Луна солнечная"? Прачытаўшы гэтыя словы, задумаешся й прыгадаеш герб Францыска Скарыны: месяц і сонца. А ці ня быў і ён „луной солнечной"? Ці ня ўзьнік з гэтых слоў герб Скарыны? Ці не падкрэсьліў гэтым гербам вялікі асьветнік, што ён быў пераемнікам справы Ефрасіні, сваёй выдатнай зямлячкі? Бясспрэчна, што Скарына ня мог ня ведаць пра Ефрасіню, ня мог ня чытаць яе Жыцця. Цалком можна дапусьціць, што яе вобраз мог стаць для таленавітага юнака Скарыны ідэалам жыцьця й дзейнасьці. Скарына ня толькі прадоўжыў, але і ўзьняў асьветніцкую справу на новую ступень. Калі Ефрасіня пашырала кнігу рукапісную, то Скарына даў свайму народу кнігу друкаваную".







# ДЗЕЯНЬНІ НЕЗАЛЕЖНАЙ ЛІТОЎСКАЙ МІТРАПОЛІІ У НАВАГРАДКУ

**(Працяг з № 34-га „Голасу Царквы")**

. . . У часе пастаўленьня Рамана Мітрапалітам Наваградзкім, маскоўскім кандыдатам на Кіеўскую Мітраполію быў Аляксей, Епіскап Уладзімірскі на Клязьме, на кандыдатуру якога Канстантынопальскі Патрыярх пагадзіўся яшчэ пры жыцьці папярэдняга Мітрапаліта Феагноста.

Альгерд ня мог пагадзіцца, каб у Кіеве, які ўваходзіў у тым часе ў склад Вялікага Княства Літоўскага, сядзеў Мітрапаліт Аляксей. Таму, пісаў да Канстантынопальскага Патрыярха: „Дай нам іншага Мітрапаліта на Кіеў, Цьвер, Малую Русь, Ніжні Ноўгарад, Навасіл . . . Я не пазволю каб той палітык у Мітры знаходзіўся ў Кіеве". (Карташев. Том. І балонка 320-21. Барсов, бал. 400-401.).

Канстантынопальская Патрыярхія была пастаўлена ў несамавітае становішча паміж дзьвёх палітычных сілаў Усходняе Эўропы, Вялікіх Князёў — Літоўскага й Маскоўскага. Каб залагодзіць абодвых, Патрыярх пастанавіў зацьвердзіць Рамана на Мітрапаліта Наваградзкага й Галіцкага, а Аляксея на Мітрапаліта Кіеўскага.

Мітрапаліт Раман такім вырашэньнем справы ня быў задаволены й,

асеўшы ў Кіеве, пачаў пашыраць сваю юрысдыкцыю на ўсе Епархіі, якія знаходзіліся ў граніцах В-Літоўскага Княства. У гэтым яго цалком падтрымліваў і Альгерд. Доказам гэтаму можа быць і тое, што калі Аляксей прыехаў да Кіева, Альгерд загадаў яго арыштаваць разам з усёю ягонаю абслугаю, адабраць ад яго аблачэньне й трымаць у вязьніцы, зь якое Аляксею ўдалося ўцячы ў Маскву. Але змаганьне за Кіеўскую Мітраполію прадаўжалася далей.

Мітрапаліт Раман праз увесь час свайго жыцьця становуча змагаўся за самастойнасьць Наваградзкае Мітраполіі, да якое ў тым часе належалі Епархіі: Смаленская, Полацкая, Тураўская, Чарнігаўская, Уладзіміра-Валынская, Луцкая й Перамышлеўская.

Памёр Мітрапаліт Раман у канцы 1361 году. Вялікі Князь Альгерд і далей прадаўжае змаганьне ня толькі за асобнага ад Маскоўшчыны Мітрапаліта для Літоўскае дзяржавы, уключна з Кіеўскай Мітраполіяй, але й за далучэньне Епархіі ў Цьверы, якая вяла змаганьне з Маскоўшчынаю.

Канстантынопальскі Патрыярх, падтрымоўваючы Маскоўшчыну, стараўся памірыць маскоўскага Мітрапаліта з Альгердам і з гэтаю мэтаю паслаў у Літву сваіх паслоў. Адзін з гэтых паслоў Ераманах Кіпрыян вельмі спадабаўся Альгерду, які паслаў яго ў Канстантынопаль, каб Патрыярх высьвяціў яго на Мітрапаліта Ўсяе Русі. Патрыярх просьбу Альгерда задаволіў, і Кіпрыян ў 1373 годзе быў высьвячаны.

Мітрапаліт Кіпрыян быў вельмі дзейным. Яму ўдалося злучыць усе тагачасныя Мітраполіі: г. з. Наваградзкую, Кіеўскую й Маскоўскую ў адну цэласьць, і ён быў на саборы ў Канстантынопалі зацьверджаны на Мітрапаліта Ўсяе Русі ў 1389 годзе. Ён вельмі рупна працаваў, каб навярнуць Жмудзінаў на хрысьціянства, і шматлікіх ахрысьціў у праваслаўную веру.

Пасьля сьмерці Мітрапаліта Кіпрыяна Вялікі Князь Вітаўт паслаў у Канстантынопаль свайго кандыдата на Мітрапаліта — полацкага Епіскапа Хвядоса. У сваёй грамаце да Патрыярха Вітаўт пісаў: „Пастаўце Хвядоса нам у Мітрапаліты, каб сядзеў стала ў Кіеве, як было ў старыну, каб будаваў Царкву Божую паранейшаму, як наш, дзеля таго, што па волі Божай мы ёсьць уладарамі горада Кіева" (Царк. гіст. Мітр. Макарыя, том IV б. 86).

У гэтым самым часе Канстантынопальскі Патрыярх высьвяціў на Кіеўскага Мітрапаліта грэка ФОЦІЯ. Вітаўт напачатку яго прыняць не хацеў, але калі ФОЦІЙ прырок, што стала будзе жыць у В. Княстве Літоўскім і будзе належна апекавацца праваслаўнай царквои у Вялікалітоўскай дзяржаве, — пагадзіўся прыняць .

Прырачэньня свайго, аднак, ФОЦІЙ не датрымаў і, пражыўшы ў Кіеве адзін месяц, ад'ехаў у Маскву. Гэты ўчынак Фоція ўгнявіў Вітаўта, і ён ізноў пачаў шукаць кандыдата на новага Мітрапаліта.

Кандыдатам такім цяпер стаў Грыгоры Цамбляк (ераманах, з паходжаньня Баўгарын). Яго выклікаў у Маскву ягоны дзядзька Мітрапаліт Кіпрыян. Але Грыгоры ў Маскву не паехаў, бо ў міжчасе ягоны дзядзька памёр. Таму ён затрымаўся на Беларусі, здабыў тут сымпатыю Вялікага Князя Вітаўта, які паслаў яго ў 1414 годзе да Патрыярха з просьбаю паставіць яго на Мітрапаліта Літоўскага-Беларускага. Патрыярх просьбы Вітаўта ня выканаў. Тады Вітаўт, у 1415 годзе, склікаў Сабор Епіскапаў ў Наваградку, на якім Грыгоры Цамбляк быў выбраны на Мітрапаліта і займаў мітрапалічую катэдру аж да сьмерці 1419 г.

Царкоўны гісторык Архіепіскап Макары лічыць Мітрапаліта Грыгорыя адданым сынам Праваслаўнае Царквы, а прафэсар Галубінскі кажа,



што яму належыць ганаровае месца ў гісторыі славянскай літаратуры.

Па сьмерці Мітрапаліта Грыгорыя маскоўскі Мітрапаліт Фоцій памірыўся з князем Вітаўтам, і Фоцію было дазволена наведаць Епархіі ў Вялікім Княстве Літоўскім, а таму праз некаторы час ня было Мітрапаліта ў Наваградку. Калі-ж памёр Фоцій, Вялікі Князь Сьвідрыгайла, які хоць сам быў каталіком, але праявіў сябе добрым апякуном праваслаўных і тагачаснае беларускае культуры, паслаў да Патрыярха Епіскапа Смаленскага Герасіма, каб высьвяціў яго на Мітрапаліта Ўсяе Русі. Патрыярх Язэп II Герасіма ў 1433 годзе на Мітрапаліта зацьвердзіў. Але жыцьцё Мітрапаліта закончылася вельмі трагічна, бо Вялікі Князь Сьвідрыгайла западозрыў яго ў здрадзе й загадаў жыўцом спаліць у Віцебску ў 1437 годзе У летапісе Даніловіча гаворыцца: „На трэйцяе лета Сьвідрыгайла спаліў Мітрапаліта Герасіма . . . за што Бог не памог Сьвідрыгайлу ў вайне з Ягайлам, бо іншыя князі перасталі памагаць яму" (Філарэт, б. 302-303, Даніловіч, бал. 53, 56, 58, 66).

Пасьля Мітрапаліта Герасіма, у зьвязку з палітычнымі падзеямі ў Грэцыі, якая шукала падтрымкі ў Папы ў часе вайны супроць туркаў, Наваградзкая Мітраполія на працягу 10-ці гадоў ня мела Мітрапаліта, бо Патрыярх Канстантынопальскі не хацеў зацьверджаць Мітрапаліта для Наваградзкай Мітраполіі. Таму, на просьбу караля Казіміра з Рыму быў прысланы ГРЫГОРЫ БАЎГАРЫНОВІЧ, дзеля праводжаньня вуніі сярод праваслаўных. Але Грыгоры, натрапіўшы адразу на супрацію людзей, пераканаўся, што ня можа мець пасьпеху. Таму ў 1469 годзе паслаў ён свайго пасла да Патрыярха, каб зацьвердзіў яго на Мітрапаліта. Патрыярх Марк II быццам-бы зацьвердзіць яго адмовіўся, але ягоны наступнік Грыгоры ў 1472 годзе Грыгорыя на Мітрапаліта зацьвердзіў.

Пасьля сьмерці Грыгорыя ў 1475 годзе мітрапалітам быў выбраны Смаленскі Епіскап Місаіл. Выбіралі яго на Саборы Епіскапы, Архімандрыты, князі, баяры й знатная шляхта. Кароль Казімір Ягайлавіч з выбарамі пагадзіўся. Пад выбарчаю граматаю былі падпісаны: Архімандрыт Віленскага Манастыра Макары, Архімандрыт Кіева-Пячэрскае Лаўры Іаан, Князь Вяземскі Бельскі, намеснік Віцебскі Ян Хадкевіч (вялікі гетман Літоўскі й маршалак) і брат ягоны Павал — намесьнік Камянецкі. Ці быў Мітрапаліт Місаіл зацьверджаны Патрыярхам, дакладна няведама, але ведама, што кіраваў Наваградзкаю Мітраполіяй аж да свае сьмерці ў 1480 г.

Яшчэ пры жыцьці Місаіла Канст. Патрыярх РАХАІЛ пасьвяціў на Мітрапаліта Наваградзкага манаха Сьпірыдона. Сьпірыдон паходзіў нібы з Цьверы. Кароль яго ня прызнаў Мітрапалітам, а пасадзіў у вязьніцу. Там ён напісаў „Навуку пра справядлівасьць нашае веры". Звольніўшыся з вязьніцы, ён паехаў у Масквау, але й там яго не прынялі й паслалі ў манастыр, дзе ён і памёр.

У міжчасе за згодаю караля быў выбраны на Мітрапаліта Архімандрыт Сымеон, якога Канст. Патрыярх зацьвердзіў і прыслаў сьвятаслаўлены ліст і пасланьне, якое прывезьлі з Грэцыі два патрыяршыя экзархі НІФОН і ФЕАДАРЫТ; яны й правялі інтранізацыю новага Мітрапаліта разам з Епіскапамі Наваградзкай Мітраполіі ў 1481 годзе. За год перад сваёю сьмерцю Мітр. Сымеон пасьвяціў у сан Епіскапа Ўладзімірскага й Берасьцейскага — Вассыяна.

У гэтым часе закончыліся й спрэчкі паміж Масквою й Наваградзкай Мітраполіяй за Мітраполію Кіеўскую і Ўсяе Русі. Масква змушана была

канчаткова адрачыся ад Кіеўскае Мітраполіі й Усяе Русі. (Гісторык Макары, том. X. б. 63-68).

Пасьля сьмерці Сымеона з дазволу караля пачаліся пошукі дастойнага кандыдата на Мітрапаліта. Выбар паў на Архіепіскапа Полацкага Йону Глезна, які доўга адмаўляўся, але пад ціскам караля Казіміра Ягайлавіча згадзіўся быць Мітрапалітам Навагрцадзкім і Ўсяе Русі. (Архірэйскі зборнік, том 1, № II, б. 2).

Сам Мітрапаліт да Канстантынопаля не паехаў, а быў пасланы ад Сабору Архімандрыт Слуцкі Язэп, з належнымі даручэньнямі з просьбаю зацьверджаньня Мітрапаліта. Патрыярх пасьвячэньня ўдзяліў. Гэткім чынам выбары новага Мітрапаліта адбыліся зусім новым спосабам: Вялікі Князь дазволіў склікаць Сабор. Сабор складаўся зь Епіскапаў, сьвятарства й вернікаў; замест высьвячэньня, ці інінтранізацыі спатрэбілася толькі зацьверджаньне Патрыярхам. Памёр Мітрапаліт Йона ў 1494 годзе.

У 1495 годзе быў выбраны на Мітрапаліта Макары — Архімандрыт Віленскага Сьвята-Тройцкага манастыра, які гэтак сама быў зацьверджаны на Мітрапалічую Катэдру Патрыярхам, але з зацемкаю, каб у прышласьці Мітрапаліта не выбіралі без папярэдняга дазволу Патрыярха. (Супраслеўскі Летапіс; Макары, там X. б. 82, 84). На становішчы Мітрапаліта Макары быў вельмі коратка, бо яго ў 1497 годзе забілі татары каля Мазыра ў часе, калі правіў Сьв. Літургію.

Пасьля Макарыя Мітрапалітам быў выбраны Іосіф Баўгарыновіч — Епіскап Смаленскі. Паходзіў з шляхочага роду. Меў маемасьць каля Слуцка. Патрыярх НІФОНТ яго зацьвердзіў, называючы яго „дабрачынным і багалюбным Іосіфам, братам і суслужыцелем, Мітрапалітам Кіеўскім і Ўсяе Русі".

Наступнікам Іосіфа Мітрапаліта быў Йона II, нібы быў выбраны з ініцыятывы каралевы Алены. Перад выбарамі быў Архімандрытам Менскага Ўвазьнясенскага Манастыра. Польскія гісторыкі зазначаюць, што ён прыехаў з Масквы разам з князёўнаю Аленаю і быў яе духоўным апякуном. Кароль Аляксандар яго прыняў, а Патрыярх на Мітрапаліта зацьвердзіў. Быў паважным, чэсным, добрым пастырам. Памёр у 1507 годзе.

Наступным Навагрудзкім Мітрапалітам быў Іосіф II Солтан, знатнага роду Солтанаў. Нарачоны на Епіскапа Смаленскага быў ужо ў 1502 годзе. Адзначыўся асабліва ў часе асады расейскім войскам Смаленска. За гэта атрымаў тры маёнткі, якія ахвяраваў Супрасьлеўскаму манастыру. На Мітрапаліта быў выбраны ў 1507 годзе. Пасьвячэньне атрымаў ад Патрыярха Пахомія. Быў адным з выдатнейшых Мітрапалітаў. У 1514 годзе ён склікаў у Вільні памесны Сабор, на якім былі прынятыя важныя пастановы. Памёр у 1521 годзе. Заставіў па сабе памяць выдатнага асьветніка Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Пасьля яго Мітрапалічую катэдру заняў Іосіф III — Архіепіскап Полацкі. (1522-1534). Меў добрыя суадносіны з каралём Жыгімонтам Старым. Падпісваўся пад дакумантамі: „Воляю Божаю Іосіф Архіепіскап — Мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і Ўсяе Русі".

Пасьля сьмерці Мітраполію абняў Епіскап Луцкі Макары II (Мак., Том. 10, б. 234).

Скарбнік каралеўскі Сьцяпан Бялькевіч атрымаў права ў 1551 г. на кіравецтва Мітраполіяй Кіеўскай і быў Мітрапалітам пасьля сьмерці Макарыя. Наступнік Бялькевіча Епіскап Холмскі Лазоўскі меўся атрымаць Мітраполію пасьля Бялькевіча, але зь няведамых прычынаў ў 1568 годзе Мітрапалітам стаўся Йона Пратасэвіч Епіскап Тураўскі й Пінскі. Ён на



сэйме ў Горадні ў 1568 годзе падаў каралю Жыгімонту II Аўгусту пэтыцыю пра жыцьцё й патрэбы праваслаўных у Каралеўстве. Яшчэ пры жыцьці, з прычыны старасьці, ён пераказаў Мітраполію Гальляшу Кучы, які зьвярнуўся да Патрыярха па зацьверджаньне на Мітрапаліта. (Мак. X., 349-350). Мітрапалітам быў ён вельмі коратка, ад 1577 да 1579 г.

У ліпені 1579 году Навагрудзкім Мітрапалітам стаў Анісіфар Дзевачка, які быў перад гэтым кіраўніком Лаўрышаўскага манастыра. Калі й кім ён быў зацьверджаны на Мітрапаліта, няведама, але ведама, што ў 1589 годзе яго пазбавіў сану Патрыярх Ерамія.

Наступнікам ягоным быў Менскі Архімандрыт Міхал Рагоза. Мянаваў яго кароль Зыгмунд III, а Патрыярх Ерамія, які ў тым часе быў у Вільні, узьвеў яго ў Мітрапалічую годнасьць.

Ужо з гэтых паданых фактаў відавочна, што бальшыня Навагрудзкіх Мітрапалітаў былі беларускага паходжаньня. Яны ня былі ніколі ў залежнасьці ад Кіеўскай ні маскоўскай Мітраполіі, а былі самастойнымі Мітрапалітамі, пастаўленымі ў бальшыні Канстантынопальскім Патрыярхам, усупярэч маскоўскай Мітраполіі, якая выбірала сама Мітрапалітаў і пастаўляла іх на катэдру без пасьвячэньня Патрыярха. Аб пяршэнстве Навагрудзкай Мітраполіі сьветчыць і той факт, што яна была зарганізавана ўжо 1291 годзе, калі ў Маскоўшчыне Мітрапаліт быў выбраны толькі ў 1448 годзе, г. з. на 157 год пазьней.

У гэтым дакладзе паданыя толькі факты, вышуканыя з працаў чужых гісторыкаў. Будзем верыць ў тое, што ў будучыні з Божаю дапамогаю гісторыя нашае царквы дачакаецца сваіх аб'ектыўных гісторыкаў, якія пададуць факты ў запраўдным і належным сьвятле.

**(З дакладу Архіепіскапа Андрэя ў Дэтройце)**

## Зьяднаньне Украінскіх Цэркваў

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква шчыра вітае сваю сястру **Украінскую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву** зьяднаную пад кіравецтвам Першагерарха Уладыкі Мітрапаліта Мсьціслава й Сабору Епіскапаў аб'яднаных Цэркваў. Мы цешымся з гэтага важнага факту й жадаем Царкве памыснага развою й плённай працы.

## Спатканьне Мітрапалітаў

7га кастрычніка сёлета адбылося спатканьне Першагерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліта Андрэя з Першагерархам Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мітрапалітам Мсьціславам. Супольнае суслужэньне адбылося пры высьвячэньні новае Украінскае Царквы у Кліўленьдзе, на ўрачыстасьць яко быў запрошаны Мітрапаліт Андрэй. Гэта было першае асабістае спатканьне абодвых Першагерархаў. Пасьля Божае Службы на супольным абедзе Мітрапаліты абмяняліся думкамі пра стан кіраваных імі Цэркваў. Да гэтага часу Уладыкі трымалі між сабою пісьмовую лучнасьць.

## З НАГОДЫ ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ УКРАІНСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

### Прывітальны ліст Мітрапаліта Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Ваша Высокапраасьвяшчэнства Высокапраасьвяшчэньнейшы Ўладыка Мітрапаліце, Высокадастойныя Ўладыкі, Дарагія Айцы, Браты й Сёстры!

З нагоды адбытага сёлета Сабору Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Таронта, 1-4 лістапада, ад імя Кансысторыі, Духавенства й Вернікаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на экзылі маю гонар і радасьць зылажыць шчырыя й сардэчныя прывітаньні ўсім удзельнікам Сабору, Духавенству й Кіруючым воргаам Украінскае Праваслаўнае Царквы на чужыне.

Сьветлыя гістарычныя пастановы Сабору на злучэньне трох Украінскіх Мітраполіяў у цэласьць ёсьць надзвычайна вялікай падзеяй у станаўленьні Украінскае Праваслаўнае Царквы у Вольным Сьвеце.

Сьветчыць гэтая падзея пра тое, што з Ласкі Божае Сьвятая Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква йдзе па шляху нашага Пастыраначальніка Ісуса Хрыста, з дапамогаю Якога й чыняцца вялікія пасьпехі й асягненьні.

Лёс Беларускае Аўтакефальнае Царквы моцна спалучаны з Украінскаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою, якая ёсьць быццам дарогапаказьнікам, як трэба вызнаваць, змагацца й абараняць Праваслаўную Веру на славу Богу й дабро нашым паняволеным Народам.

Ад шчырага сэрца й любячае душы жадаем Вам яшчэ большых пасьпехаў, міру, згоды, адзінства, любові, радасьці й вызваленьня Вялікага Украінскага Народу з бязбожнай няволі.

З братняю любоўю ў Хрысьце Ісусе Спасе нашым,

**✠ Мітрапаліт Андрэй**
Галава БАПЦарквы на экзылі.

### Ліст Мітрапаліта Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы да Мітрапаліта БАПЦарквы

Ваша Высокапраасьвяшчэнства, Дарагі Войча Ўладыка,

Складаю Вам сардэчную падзяку за Вашае прывітаньне й добрыя пажаданьні з нагоды шчасьліва адбытага Сабору Епіскапаў трох нашых мітраполіяў, якія становяць цяпер **адну** Украінскую Праваслаўную Царкву ў Вольным Сьвеце. Малю Госпада, каб адбыты Сабор стаў чыньнікам далейшага ўзмацненьня нашае Сьв. Царквы, Богу на славу, а Ўсяленскаму Праваслаўю на добрую карысьць.



Усё бліжэй ды бліжэй становіцца да Сьвята Нараджэньня Хрыстовага, а таму ўжо цяпер складаю з нагоды гэтага Сьвята Вам і Духавенству й Вернікам Сьв. Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы мае найлепшыя пажаданьні, на чало якіх стаўлю — шмат духовае радасьці ды ўсячаснай апекі Нованароджанага для нашага збавеньня над набожным беларускім народам.

З любоўю ў Хрысьце,

**✠ Мсьціслаў**
Мітрапаліт

---

## З ГІСТОРЫІ ДАЛУЧЭНЬНЯ ЖЫРОВІЦКАГА МАНАСТЫРА ДА ПРАВАСЛАЎЯ

Раней было пададзена (№ 36 Г. Ц.), як Жыровіцкі манастыр перайшоў ад праваслаўных да вуніятаў, цяпер падамо некаторыя гістарычныя падзеі, як манастыр, пасьля звыш 2-х сталецьцяў быў вернуты да праваслаўя.

У архівах, вывезеных з Жыровіцкага манастыра ў Вільню, у 1840-м годзе, знойдзена запісь, якая прыпісваецца аўтарству Антона Тупальскага — Прасьвіцера й настаяцеля Катэдральнага Сабору Прачыстае Багародзіцы ў Вільні. У апошніх гадох ягонага жыцьця ён належаў да Рады Епіскапа Мітрапаліта Язэпа Сямашкі ў Вільні.

Пасьля трэйцяга падзелу Рэчы Паспалітае ў 1795 годзе, уся Заходняя частка Беларусі разам з Жыровіцамі была далучаная да Расейскае імпэрыі. У Жыровіцах у той час знаходзіўся другі пасьля Полацку асяродак вуніяцтва. Добра ведамы Сямашка быў там настаўнікам духоўнае сэмінарыі ў 1820-м годзе, а ў 1829-м годзе быў хіратанізаваны ў Епіскапа Мсьціслаўскага ды ў 1883 годзе пераведзены ў Вільню. У гэтым часе вунійную Мітраполію пераняў пад сваю апеку обэр-пракурор Расейскага царкоўнага Сыноду. Да гэтага часу Вунійная царква была самастойнай, згодна дэкрэту цара Паўла І-га. Калі-ж расейскі трон заняў Мікалай І-ы, то адразу-ж пачаў захады да ліквідацыі вуніі. З гэтай мэтаю быў пакліканы ў Пецярбург Епіскап Сямашка, які й згадзіўся ачоліць акцыю ліквідацыі вуніі, як найбольш зацікаўлены ў гэтай справе. Вунійны Мітрапаліт, Язэп Булгак, які жыў у Полацку, ад супрацьвунійнай акцыі адмовіўся. Епіскап Язэп Сямашка накіраваўся ў Жыровіцы. Там пачаў падрыхтоўчую акцыю пры помачы знанага багаслова Прасьвіцера Антона Тупальскага з Берасьцейскае Епархіі, да якой і Жыровіцы тады належалі. На працягу двох год ён згуртаваў вакол сябе мясцовае сьвятарства. Да яго далучыўся Епіскап Берасьцейскі Антоні Зубко, Ігумен Наваградзкага манастыра Васіль Лужынскі — пазьнейшы Епіскап Горадзенскі, Ігумен Быценскага манастыра Мікалай Галубовіч — пазьней Епіскап Менскі, ды іншыя вунійныя сьвятары з Пінску й Слоніма, прафэсары духоўнае сэмінарыі ў Жыровіцах, студэнты — будучыя сьвятары праваслаўнае Царквы. Калі справа далучэньня вуніятаў да Праваслаўнае Царквы была падрыхтаваная, у тым часе памёр стары Мітрапаліт Булгак Тады было разаслана пасланьне да скліканьня вунійнага Сабору ў Полацку. Сабор адбыўся ў 1839-м годзе, дзе напэўна быў і царскі прадстаўнік ад расейскага Сыноду. На саборнай Багаслужбе Епіскап Сямашка быў узьведзены ў сан Архіепіскапа, а на

Саборы — на Мітрапаліта. Было пастаноўлена абвесьціць злучэньне Вунійнае Царквы з Праваслаўнаю, і аднавіць Літоўскую Праваслаўную Мітраполію, згодна традыцыі раней абвешчанай Мітраполіі ў Наваградку. Мітраполію ачоліў Мітрапаліт Сямашка, з сядзібаю ў Вільні, куды й перабраўся й пасяліўся ў Сьвята-Духавым манастыры. У 1844-м годзе туды-ж перанёс духоўную сэмінарыю. З ім разам праз увесь час быў і Антон Тупальскі, як ягоны найбліжэйшы супрацоўнік, багаслоў і сакратар Рады Епіскапаў у Вільні, аж да свае сьмерці ў 1848 годзе. Мітрапаліт Сямашка, роджаны на Кіеўшчыне, памёр у 1880-м годзе, пражыўшы 92 гады, і пахаваны ў Сьвята-Духаўскім манастыры.

Пераход, ці паварот Жыровіцкага манастыра да Праваслаўнае Царквы быў слаба заўважаным здарэньнем, бо ўсё было раней падрыхтавана. Пра самы пераход апавесьціў сам Берасьцейскі Епіскап Зубко, вяртаючыся з Полацку. Зьмена заўважылася крыху пазьней, калі Жыровіцы значна апусьцелі, бо страцілі значаньне цэнтру духоўнага жыцьця.

Шмат падзеяў і зьмен пабачыў і перажыў Жыровіцкі Манастыр за пяць сталецьцяў яго існаваньня. Гэты куток Беларусі ў пагоркаватай Слонімшчыне асьвяціла Маці Божая зьяўленьнем Свайго Цудадзейнага Вобразу, і пад Яе апекаю Жыровіцкі Манастыр перажыў шмат і радасьцяў і смутку, але захаваўся й да нашых дзён. Людзі сьлёзна моляцца там прад Цудадзейным Абразом Божае Маці. Раскіданыя-ж па сьвеце Беларусы будуюць Цэрквы ў Імя Жыровіцкае Божае Маці й моляцца за лепшую долю Бацькаўшчыны. Няхай Бог пашле гэтаму Бэтлеэмскаму куточку Сваю Ласку, а Прачыстая Маці — ахінае яго Сваім Амафорам. **А. Асіповіч**

---

# "САВЕЦКІ ЧАЛАВЕК"

Ленін, прагнучы ўлады над людзьмі, прагалошваў, як з мяшка сыплючы, розныя спакусьлівыя лёзунгі й абяцанкі. „Зямля сялянам, фабрыкі рабочым, свабода, справядлівасьць, роўнасьць, братэрства, скасаваньне ўласнасьці" (гэтае апошняе тарнавалася ў той час першым чынам да буйнейшых земляўласьнікаў, як дэклярацыя для надзелу бяднейшым). Ленінскія-ж насьлядоўцы абвяшчалі, што навет і дзеці будуць абагульнены, маўляў, бацьком будзе ўсяе турботы, што на сьвет пушчаць, а дзяржава будзе гадаваць — ня дзівецеся, шаноўныя чытачы, і ня сьмейцеся — было й гэтае. Агульна кажучы, кідаліся дэмагагічныя, бяскрытычныя, нічым не кантраляваныя й нерэальныя лёзунгі й дэклярацыі.

Дапяўшы да ўлады і ўмацаваўшыся на крывавым троне, Ленін усе гэтыя лёзунгі й дэклярацыі выкінуў на гістарычны сьметнік, вярнуў абсалютызм, які быў ужо аджыты, і ўстанавіў дзяржаўны лад — імпэрыялістычную тыранію з усімі яе атрыбутамі: растрэламі, концлягерамі, прыгоннай працай, гвалтам і зьдзекам з людзей.

Замест зманлівых дэклярацыяў засталіся толькі патрабаваньні й розныя „ударныя" працы, накінутыя гвалтам забавязацельствы, спаборніцтвы, стаханаўшчына ды розныя прыгонныя дагонкі й перагонкі. Вынікі навочныя: дзясяткі міліёнаў загубленых людзей, а для жывых, — жах, пакута, боль і гора. Адбылося нябывалае ў гісторыі. Калі пра ўчынак Ірада — выбіцьцё ў Бэтлееме й ваколіцах немаўлят — гаварылася: „Голас у Раме чуцён, плач, галашэньне й лямант вялікі; Рахіль плача па дзецях сваіх, і ня хоча суцешыцца, бо няма ўжо іх", то ў СССР нельга было ні плакаць, ні лемантаваць, а сьлёзы трэба было асаджаць на сэрцы, бо за плач і скаргу прызначаўся той самы концлягер, а партыйнікі галасілі, што „жить стало лучше, жить стало веселей" — для іх можа й так. У сэньсе-ж жыцьцёвага штандарту жыхарства гэтага фальшыва названага гаспадарства — СССР — стаіць у радзе найбяднейшых гаспадарстваў, ня гледзячы на тое, што багацьці занятай тэрыторыі дазваляюць з посьпехам стаць у рад гаспадарстваў найбагацейшых. Аднак, крамлёўскія ўладары, як часам гіранічна выслаўляюцца Расейцы — „хоть босяк, фасону не теряю", — усьцяж пацяшаюць падуладнае жыхарства будучыняй і падсьцёбваюць да бегу ў камунізм, нахабна цьвердзячы, што сацыялізм ужо пройдзены.

Усё гэта сталася, як-то бальшавікі любяць выслаўляцца, заканамерна. Каб устанавіць лад у гаспадарстве, праціўны чалавечай прыродзе й чалавечаму духоваму складу, Ленін мусіў устанавіць тэрор, нячуваны ў гісторыі людзтва. Ці-ж можна апраўдаць чым-небудзь выгубленьне дзясяткаў міліёнаў людзей, нікому ні ў чым нявінных? I ці-ж можна чым-небудзь апраўдаць адкрыцьцё спэцыяльных псыхіятрычных установаў для зламаньня чалавечае волі й перастанаўленьня яго мысьленьня, чаго бязумоўна, нельга дасягнуць, а можна толькі скалечыць чалавека, як асобу непаўторную.

Цяперашнія ўладары крамлёўскія нібы прабачаюцца за гэта, паказваючы на Сталіна, якога выкінулі з маўзалею. Прабачэньне мела-б нейкую падставу, калі-б выкінулі адначасна й Леніна. Ніхто-ж не падлічаў, колькі душ загублена за Ленінам, а колькі за Сталінам, як не падлічае загубаў цяперашніх. Леніна-ж сваім зямным ідалам паставілі, і тортурных установаў не зьліквідавалі.

Да гэткага душагубства Ленін скарыстаў тэорыю клясавасьці, прыправіўшы яе ядам зла й нянавісьці, як і наагул усе ягоныя творы пытаюць чалавеканянавісьцяй і маюць у аснове фальш. Фальш палажыў ён і ў зьмест закладзенай дзяржавы, што відаць з самога назову яе. Бо ні саюзнай, ані сацыялістычнай, ані рэспублікай гэтае дзяржавы назваць нельга.

Тэорыя-ж клясавасьці ў агульным прагрэсыўным поступе людзтва ніякага значэньня ня мела. Бо якраз з тэй клясы, названай прыгнятальніцкай, выходзілі людзі, якія рухалі гэты поступ, змагаючыся за роўнасьць і вольнасьць для ўсіх. I непараўнальна лепш і спакайней і вальней жывуць людзі ў тых краінах, дзе гэтая мэханіка клясавай нянавісьці ня была пушчана ў рух. Можна паказаць на тыя краіны, дзе й каралі засталіся, куды ленінская рука не сягнула, прыкладам — краіны скандынаўскія, ці Ангельшчына.

Дзеля ўтрыманьня ўстаноўленага ладу ў бальшавікоў паўстала праблема фармаваньня „новага — савецкага чалавека". Што то за чалавек мае быць, чым ён павіне вызначацца й чым розьніцца ад кажнага чалавека, гэтага бальшавікі не высьсяняюць, бо й не ўяўляюць самі, як ўяўлялі таго „сацыялізму", да якога йшлі ды крычаць навонкі, што ўжо прайшлі, і не ўяўляюць таго камунізму, да якога падсьцёбваюць людзей і пацяшаюць, што ўжо тады будзе „кажнаму паводля патрэбы" — гэта чарговая й найдурнейшая дэклярацыя.

З паводзін і практычнай дзейнасьці бальшавікоў выяўляецца, што першым патрабаваньнем да гэтага „савецкага чалавека" ставіцца адмова веры ў Бога ці атэізм. Але адначасна намовамі, і грозьбай і зьдзекам стараюцца ўбіць у галовы сваіх падуладных веру ў Леніна і ў яго фальшывую навуку, і пры ўсякай пахвальбе свайго ладу спасылаюцца на Леніна, як на

вышэйшы закон; на таго Леніна, з міласьці якога загублены дзясяткі міліёнаў людзей, зямля кроўю залітая, і ўжо звыш паўсталецьця людзі ў ягонай СССР жывуць у сталай нястачы, у голадзе, у бядзе і ў страху.

У кажнага чалавека хрысьціяніна паўстане пытаньне: чаму я павінен зрачыся веры ў Хрыста ды прыняць веру ў душагубцу? Гэтае пытаньне й наяўнасьць бальшавіцкага ціску ды ахайваньня хрысьціянскае навукі будзе спрычыняцца хутчэй да ўздыму веры хрысьціянскай і выклікаць агіду да цяперашніх гнабіцеляў і іхнай самаволі, а таксама да іхнага заканадаўцы Леніна. Параўноўваць хрысьціянства з ленінізмам чалавеку не дазваляе яго сьведамасьць і мысьленьне, ня толькі вера.

Тымчасам антырэлігійныя захады ды аднача сна захады гадоўлі „савецкага чалавека" ня сягоньня стаяць у СССР, як „ударныя". Дзеля гэтага пушчаны ў рух увесь агітпроп, сэксоты, загрозы, страх, суды, высылкі, спэцыяльныя катаржальныя лягеры ды нарэшце й запраторваньне ў псыхіятрычныя „лячніцы". Гэта ўжо запраўды шатанская ўстанова, бадай нязнаная да гэтага часу. І ня менш страшны за гэты вынаход той факт, што знайходзяцца „дактары", якія пагаджаюцца калечыць асабісты індывідуальны уклад чалавечае натуры, забіваць волю чалавека й ператвараць яго ў робата, які-б адвольна выконваў бальшавіцкія загады й патрабаваньні ды ўдадатак услаўляў бальшавізм і Леніна.

У гэтым выпадку трэба ўспомніць іншую сацыялістычную тэорыю: скасаваньне прыватнай уласнасьці. Ленін, а за ім і яго спадкаемцы пасунулі гэтую тэорыю так далёка, што захацелі абагульніць душы чалавечыя; ператварыць чалавека-асобу ў чалавека-экзэмпляр, падобна, як рабочая пчала ў вульлі, ці мурашка ў муравейніку. І хочуць ператварыць, перастанавіць індывідуальнае чалавечае жыцьцё ў формы жыцьця ніжэйшых стварэньняў, як успомненыя пчолы ці мурашкі, ці іншыя кузуркі. Тымчасам, чалавек адухатвароная непаўторная **асоба,** як гэта добра названа ў нашй мове. Як цяжка знайсьці двух чалавек з ідэнтычным падабенствам вонкавым, так немагчыма знайсьці двух з аднолькавым голасам і таксама з аднолькавай натурай. Бльшавікі, праняўшыся матэрыялістычнай тэорыяй, прабуюць падганяць людзей пад сваю штандартную маглоўку і гэтак выгадаваць „савецкага чалавека"; чалавека, пра якога ў беларускай мове ёсьць гэткая прымаўка — „сам сабе ня свой" — бо паводля замаху крамлёўскіх уладароў ён павінен быць „савецкім", выпусташаным духова. Ён не павінен мець ніякай уласнасьці, навет душы свае пазбыцца. Дык яка-жа гэта выглядае, скасаваньне ўласнасьці? Калі ад работніка будзе аднятая ўся ягоная ўласнасьць, а партыйны сатрап будзе ўладаць навет і душою ягонаю? Дарэчы тут паставіць пытаньне: што так натужна й нахабна пхала Леніна на зьверхнасьць? Ці то жаданьне лепшага быту для людзей? Дзейнасьць Леніна дае выразна адмоўны адказ на гэтае пытаньне. Яго цягнула наверх ягоная прагнасьць уласнасьці і ўласнасьці найгоршага, шатанскага пошыбу, бо ўласнасьці, ці ўладарнасьці й над душамі людзкімі. Гэткай-жа ўласнасьцяй працятыя й душы цяперашніх партыйных савецкіх сатрапаў. Дык вось у што абарочваецца тэорыя скасаваньня прыватнай уласнасьці — зварот рабства абсалютнага, у змадэрнізаванай форме.

На фармаваньне гэтага новага „савецкага чалавека" ставяцца ўсе культурнаасьветныя ўстановы, якія агітпроп абцягвае сваім павуценьнем, стараюцца адмысловыя таварыствы, звычайна, з ініцыятывы Масквы й на загад Масквы. Вось летась закладзена „Беларускае аддзяленьне філасофскага Таварыства СССР". Было-б дакладней назваць гэта „Беларускае аддзяленьне Маскоўска-бальшавіцкае філязофіі" а ў запраўднасьці гэта ёсьць ня што іншае, як экспазытура бальшавіцкага агітпропу. Гэтае дзіцё прынёс на Беларусь з Масквы Бусел-Буслаў — віцэ-прэзыдэнт філасофскага таварыства СССР — акадэмік АН БССР. На канфэрэнцыі гэтага „Аддзяленьня" (30 чэрвеня летась), ківаючы на пастановы зьездаў КПСС або на ЦК КПСС, ён казаў: „Усе грамадзкія й філасофскія навукі ў першую чаргу павінны распрацоўваць сьветапоглядныя асновы камуністычнага будаўніцтва й выхаваньня новага чалавека".

Гэтай „філязофіі" вызначана адна толькі сьцежачка, так як часам падарожніку паложана цераз глыбокую рэчачку адна толькі жардзіна — сьхісьнешся ўбок, утопішся, дык не разглядайся.

Якія-ж вынікі дасюлешняй „гадоўлі савецкага чалавека"? Бязумоўна, падсавецкі чалавек ня страціў **чалавечай** постаці й ня прыняў „савецкай". Немагчыма жывому чалавеку перарабіцца на робата, які меў-бы кіравацца чужой воляю. Вызначаюцца-ж некаторыя спэцыфічныя рысы, якія паўстаюць з умоваў таго савецкага жыцьця. Высьвятляецца гэта з асабістай перапіскі з суродзічамі й з турыстычных візытаў. У падсавецкіх людзей павялічылася асабовая сэпарацыя, недавер адзін да аднаго — навет часам варожасьць, таксама ў некаторай меры павялічылася зайздрасьць і, ведама, — страх. Першае — сэпарацыя — паўстае з абагульняючага ціску, як нармальны супраціў індывідуальнае асобы; другое — недавер — паўстае з крыжовай сеткі палітычнага выведу; а трэйцяе — зайздрасьць, паўстае з нястачы, і то сталай, праз увесь час існаваньня савецкага ладу, і перадусім — нястача ежы й адзежы. Усе гэтыя рысы адмоўныя ў грамадзкім жыцьці, пры якім-бы ні было ладзе. Але яны ня сталыя рысы ў чалавечай натуры. Пры іншых абставінах яны атрасуцца як пыл.

Фармаваньне-ж „савецкага чалавека" астанецца хімэраю, як і ўсе іншыя, якія ў бальшавікоў паўставалі ўсьцяж : паўстаюць, але яваю не стаюцца.

Яваю стаецца штосьць іншае. Усе тыя „ударныя" заданьні спрычыніліся да таго, што краіна, якая канкуравала з Амэрыкай у пастаўках хлеба на сьвятовыя рынкі пры земляробстве прымітыўным, перайшоўшы на земляробства „прагрэсыўнае", ня можа пракарміць сваіх людзей ды змушана купляць хлеб у тэй-жа капіталістычнай Амэрыцы ды ў іншых краінах. Вось і відаць, што тут якраз агітпроп спрычыняецца да гэткіх вынікаў, бо адбірае залішне шмат працоўных рук ад працы прадуктыўнай, пераводзячы людзей на працу пустазвонную. Яшчэ за цара расейскія навукоўцы цьвердзілі, што пры належнай пастаноўцы земляробскай справы, Расея магла-б пракарміць усю Эўропу, улучаючы, пэўне-ж, і сваё жыхарства. І гэта ня было „савецкае пустазвонства", калі ўзяць на ўвагу, што Расея займала тэрыторыю ў 20 міліёнаў квадратовых вёрст. А СССР займае яшчэ большую.

**С-кі**

## ПАДЗЯКА

У сувязі з маім юбілеем 10-х ўгодкаў сьвятарства гэтым складаю шчырую падзяку арганізатарам банкету, за выказаньня прывітаньні й пажаданьні, атрыманыя за пасярэдніцтвам пошты й тэлефанічна, а таксама за зложаныя падарункі ад арганізацыяў і прыватных асоб. Ня маючы магчымасьці асабіста адказаць кажнаму на выказаныя пажаданьні й прывітаньні, прашу праз наш часапіс прыняць ад мяне шчырае Беларускае Дзякуй.

**Пратаерэй Ян. Абабурка**

## ПАРАФІЯ БАПЦ Ў ДОРОТЫ

У нядзелю 9 верасьня сёлета адбылося пасьвячэньне нованабытай Царквы Святой Тройцы ў мястэчку Дороты, штату Нью Джэрсі. Пасьвячэньне выканаў Першагерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Мітрапаліт Андрэй у суслужэньні прат. Васіля Кендыша, а. Карпа й а. Александра; сьпяваў спалучаны хор парафіяў Нью Ёрку й Гайлэнд Парку пад кіравецтвам дырыгента бр. Міхася Тулейкі. Прыгожая сонечная пагода прычынілася да прыбыцьця большае колькасьці парафіянаў суседзяў з Нью Ёрку, Гайлэнд Парку ды іншых мясцовасьцяў на гэтую ўрачыстасьць.

Чын пасьвячэньня, Св. Літургія й Малебен з Крыжным ходам прайходзілі пры глыбокім, урачыстым і малітвеным настаўленьні сьвятарства й вернікаў.

За выняткова вялікую ахвяру бр. Дымітра Юркоўскага, падчас Літургіі Уладыка Мітрапаліт Андрэй уручыў яму заслужаную „Багаславенную Грамату".

Па заканчэньні Божых службаў сьвятарства госьці й вернікі БАПЦ у ліку 150 асобаў зыйшліся ў залі пад царквою на супольны абед. Малітвай Войчы Наш і асьвячаньнем Уладыкі Мітрапаліта распачалася застольная бяседа.

Падчас абеду а. Карп складаў шчырую падзяку Ўладыку Мітрапаліту Андрэю за Бацькоўскую апеку, сьвятарству і ўсім ахвярадаўцам за аказаную дапамогу новазарганізаванай Парафіі ў Дороты, у надзеі, што запаленая сьвечка БАПЦ будзе нязгасна сьвяціць у новай царкве.

Расьціслаў Войтанка — Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня на штат Нью Джэрсі вітаў Парафію, жадаючы посьпеху ў працы ды заклікаў да братэрскай помачы новай царкве.

Прат. Васіль Кендыш у сваёй прамове падкрэсьліў важнасьць мець сваю незалежную Царкву для супольнае малітвы й духовага ўзгадаваньня, ды ўспамінаў пра жудасны ўціск і цяжкі стан рэлігійнага жыцьця на Беларусі.

Інж. Мікола Гарошка — Старшыня Парафіяльнае Рады Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку — падкрэсьліў вялікую ахвярнасьць працы а. Карпа й Маці Вольгі, якія напрацягу чатырох гадоў, даяжджаючы да Нью Ёрку на кажную Божую Службу, шчыра выконвалі пастырскую апеку Парафіі.

Ад Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку прамаўляў інж. Васіль Русак, сябра Парафіяльнае Рады, які падкрэсьліў важнасьць паўстаньня новае парафіі БАПЦ і ахвярную працу а. Карпа, выказаўшы надзею, што а. Карп. і тут, у новай парафіі, знойдзе поўную падтрымку пры выкананьні сваіх абавязкаў з боку парафіянаў у Дороты.

Др. Ст. Станкевіч — рэдактар газэты „Беларус" — вітаў Парафію Сьвятой Тройцы ў Дороты, жадаючы посьпеху, ды паінфармаваў пра газэту.

Уладыка Мітрапаліт Андрэй, як у сваім Архіпастырскім павучэньні, так і за бяседным сталом выказаў сваё глыбокае задаваленьне з факту заснаваньня новае Парафіі Сьвятое Тройцы ў Дороты, дзе у супольнай малітве будуць знайходзіць духовы супакой нашыя браты й сёстры. Уладыка Мітрапаліт асабліва падкрэсьліў важнасьць малітвы ў сьвятой Царкве.

На ўрачыстасьці былі прысутныя мэр мястэчка Дороты й іншыя прадстаўнікі мясцовых уладаў.

Наапошку настаяцель Парафіі а. Карп яшчэ раз шчыра дзякаваў усім, хто дапамог сваімі ахвярамі прысьпешыць падрыхтову да пасьвячэньня Царквы й запэўніў, што ён і надалей будзе прыкладаць максімум высілку да апекі й разбудовы даверанае яму Парафіі Сьвятой Тройцы, згодна з вымогамі ягонага сану й Закону Божага.



*Фронт Царквы ў Дороты.*

Вернікі парафіяў БАПЦ з Нью Ёрку й Гайлэнд Парку спадзяюцца, што Дороты з сваімі пяцьма акрамі зямлі й лесу пры царкве стануцца месцам супольных спатканьняў-пікнікаў у часе летніх месяцаў.

### Ад Кансысторыі БАПЦарквы

1-га сьнежня 1973 г. Кансысторыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы аформіла куплю царкоўнага будынку з пяцьма акрамі зямлі ў мястэчку Дороты, Нью Джэрсі. Ад гэтага часу БАПЦарква стала ўласьніцай гэтае маемасьці. Адміністратарам зьяўляецца а. Карп Стар

Папярэднія ўласьнікі маемасьці пабожныя парафіяне Дымітр і Матрона Юркоўскія ахвяравалі, пры разьліку куплі, суму шэсьць тысяч дзевяцьсот даляраў, за што Сакратар Кансысторыі Прат. Васіль Кендыш ад імя БАПЦарквы выказаў шчырую падзяку.

Дакумэнты куплі аформіў праўнік Клемэнт Лісіцкі ў ягонай канцылярыі, 1179 Іст Лэндіс Авэ., у Вайлэньдзе. Усю працэдуру куплі сп. К. Лісіцкі выканаў бясплатна.

Ад Кансысторыі пры афармленьні й перадачы акту куплі былі: Сакратар Кансысторыі Прат. Васіль Кендыш, а. Карп Стар, скарбнік Аўген Лысюк, сябра Інж. Васіль Русак і праўны дараднік адвакат Расьціслаў Войтанка.

З-за браку гатоўкі да належнай аплаты — 10.000 дал. — Кансысторыя мусіла ўзяць пазычку, таму мы зварачаемся з ласкавай просьбай да ўсіх Беларусаў далажыць сваю цаглінку, перасылаючы ахвяру ў Кансысторыю: Byelorussian Autocephalic Orthodox Church, Consistory, 9 River Road, N. J. 08904.

**Сакратарыят Кансысторыі**

**Візыта ў Мітрапаліта Мсьціслава**

12-га лістапада сёлета Прат. Васіль Кендыш, Сакратар Кансысторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, і Мікалай Войтанка, сябра Рады БАПЦ, былі прынятыя на спэцыяльнай аўдыенцыі ў Мітрапаліта Мсьціслава, Першагерарха Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. У гутарцы былі парушаны агульныя суадносіны нашых Цэркваў, а таксама Уладыка Мітрапаліт Мсьціслаў насьвятліў агульны стан Праваслаўных Цэркваў у вольным сьвеце й справу падрыхтовы да 8-га Ўсяленскага Праваслаўнага Сабору. Выказана ўзаемнае пажаданьне сталага кантакту паміж нашымі Цэрквамі.

**ПРОСЬБА**

Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы звараючаецца з просьбай да ўсіх Беларусаў, як у парафіях БАПЦ так і вонках іх, пераслаць сваю ахвяру на пашырэньне дзейнасьці Беларускае Мітраполіі.

Ахвяры просім перасылаць чэкамі або Монэй Ордэр у Кансысторыю БАПЦ.

**АХВЯРЫ НА КУПЛЮ ЦАРКВЫ Ў ДОРОТЫ, НЬЮ ДЖЭРСІ**

**Парафія ў Нью Ёрку.**

| | |
|---|---|
| 1. Інж. Мікола Гарошка | 1000.00 |
| 2. Др. Уладзімер Набагез | 700.00 |
| 3. Мікалай Заморскі | 250.00 |
| 4. Др. Расьціслаў Гарошка | 200.00 |
| 5. Міхась Міцкевіч | 100.00 |
| 6. Міхаць Тулейка | 100.00 |
| 7. Балеслаў Яновіч | 50.00 |
| 8. Юрка Касьцюкевіч | 50.00 |
| 9. Кастусь Верабей | 50.00 |
| 13. Др. Пётр Маркоўскі | 50.00 |
| 14. Дымітр Сямёнаў | 50.00 |
| 15. М. Навіцкі | 50.00 |
| 16. Аўген Дэмша | 50.00 |
| 17. Філарэт Родзька | 25.00 |
| 18. Віктар Дубяга | 25.00 |
| 19. Генадзі Дубяга | 25.00 |
| 20. Васіль Стома | 20.00 |
| 21. Леў Стагановіч | 25.00 |
| 22. Александар Стагановіч | 20.00 |
| 23. Уладзімер Лосік | 20.00 |

**Парафія ў Гайлэнд Парк'у**

| | |
|---|---|
| 1. Парафія | 750.00 |
| 2. Александар Асіпчык | 300.00 |
| 3. Інж. Васіль Русак | 200.00 |
| 4. Мікалай Войтанка | 100.00 |
| 5. Алег Дубяга | 100.00 |
| 6. Уладзімер Харавец | 100.00 |
| 7. Міхал Сільвановіч | 100.00 |
| 8. Павал Кулеш | 100.00 |
| 9. Аўген Лысюк | 50.00 |
| 10. Анна Лук'янчык | 50.00 |
| 11. Янка Азарка | 50.00 |
| 12. Марыя Васілеўская | 50.00 |

**Парафія ў Дэтройце.**

| | |
|---|---|
| 1. Др. Язэп Сажыч | 250.00 |
| 2. Янка Бруцкі | 100.00 |

**Парафія ў Кліўленьдзе.**

| | |
|---|---|
| 1. Парафія | 1000.00 |
| 2. Уладыка Мітрапаліт | 300.00 |
| 3. Кастусь Калоша | 100.00 |

**Парафія ў Таронта.**

| | |
|---|---|
| 1. Парафія | 1000.00 |



# ХРОНІКА

**Сьвята Ўдзячнасьці ў Дороты**

У чацьвер 22-га лістапада сёлета, Парафія Сьвятой Тройцы БАПЦарквы ў Дороты, штату Нью Джэрсі, урачыста адзначыла Дзень Удзячнасьці (Thanksgiving Day). У 9 гадзін раніцы настаяцель Парафіі а. Карп Стар адслужыў Малебен Удзячнасьці. У царкве былі, апрача парафіян, і амэрыканцы не праваслаўнага веравызнаньня. Усе прысутныя былі ў прыўзьнятым малітвенным настроі. Айцец Карп у прыгожай казані гаварыў пра значэньне гэтага дня. Многалецьце было адсьпявана вышэйшым герархам і сьвятарству БАПЦарквы, Амэрыканскаму й Беларускаму Народам.

Пасьля Божае Службы, Сястрыцтва Парафіі зладзіла ў царкоўнай залі прынагодны пачастунак — індыка. Усе прысутныя, як парафіяне, так і госьці, адчувалі сябе ў братняй атмасфэры. У часе абеду вяліся размовы пра добраўпарадкаваньне свайго Храму.

**Парафія БАПЦарквы ў Мэльбурне — 1973 г.**

Дня 1-га ліпеня, пасьля Багаслужбы, у прыцаркоўнай залі адбыўся чарговы, гадавы, Справаздачны Парафіяльны Сход. Сябры парафіі з вялікай цікавасьцю выслухалі справаздачы настаяцеля, скарбніка й рэвізійнае камісіі. Са справаздачы прысутныя змаглі даведацца, што дзейнасьць і асягненьні парафіі пацяшаючыя. На сходзе было абгаворана-абмяркована рад важнейшых парафіяльных справаў і спосаб правядзеньня іх у жыцьцё ў наступным годзе.

***

28-га ліпеня а. Александар ахрысьціў Сымона-Андрэя, сына Яна й Шэрыл Карп. Няхай Усемагутны абдорыць Сымона-Андрэя добрым здароўем, каб хутка рос на славу Богу, на радасьць і пацеху бацьком ды гонар Беларускаму Народу.

***

29-га ліпеня Мэльбурнская парафія сьв. БАПЦарквы адзначала ажтрайны юбілей: 1) 800-я ўгодкі ад сьмерці Сьв. Ефрасіні Полацкай; 2) 25-я ўгодкі аднаўленьняБАПЦарквы, ды 3) 15-я ўгодкі заснаваньня Парафіі БАПЦарквы ў Мэльбурне. Пасьля сьв. Літургіі служыўся Малебен. Падчас Малебна суслужыў з настаяцелем а. Александрам а. Міраслаў — Сэрбскае Праваслаўнае Царквы. Прыгожа пяяў узмоцнены царкоўны хор. Пасьля Багаслужбы, у прыцаркоўнай залі адбыўся багаты супольны пачастунак, на якім шматлікая колькасьць парафіянаў і гасьцей у шчырай прыяцельскай гутарцы затрымалася да позьняга вечару. Падчас урачыстасьці было агалошана заснаваньне жаночага гуртка, ,,Сястрыцтва" пры Парафіі БАПЦарквы ў Мэльбурне. Сястрыцтва адразу-ж выказала гатоўнасьць і здольнасьць да дзейнасьці, карыснае для БАПЦарквы й беларускага грамадзтва.

Дапамажы ім Божа!

***

8-га верасьня а. Александар ахрысьціў Пётру-Адама Бонд, сына Сяргея й Раісы Бонда (Сасноўскі). Няхай ахрышчаны Пётра-Адам расьце ды цешыць бацькоў ды дзедкаў і бабкаў.

***

У нядзелю, 9-га верасьня, на запросіны сьвячэньніка Віктара, архірэйскага намесьніка Эгіпскай (Коптскай) Праваслаўнай Царквы ў Мэль-

бурне, прадстаўнікі ад парафіі БАПЦарквы прынялі ўдзел у афіцыйным прывітаньні новапрыбылага а. Міны да Мэльбурнскае Эгіпскае Царквы. У гэтай надзвычайнай падзеі прынялі ўдзел сьвятарства шматлікіх праваслаўных і пратэстанцкіх веравызнаньняў ды прадстаўнікі царкоўных і грамадзкіх арганізацыяў. Парафію БАПЦарквы рэпрэзэнтаваў прат. а. Александар ды сябра Парафіяльнае рады.

***

29-га верасьня адыйшла ў вечнасьць суродзічка Агаф'я Шчыкора. Сьв. пам. Агаф'я пражыла 81 год, а з іх амаль чвэрць сталецьця ў Аўстраліі. 3-га кастрычніка цела Агафі пахавалі на беларускім магільніку. Вечная ёй памяць!

***

23-га кастрычніка г. г., на 52-гім годзе жыцьця, неспадзявана адыйшла ў вечнасьць сястра Лідзія Нікан. 26-га вялікая колькасьць суродзічаў і прыяцеляў-знаёмых сабралася, каб аддаць апошняе разьвітаньне Лідзіі — праводзіць на вечны супачынак. Чын пахарону даканаў а. Александар Кулакоўскі.

Цела нябожчыцы пахаванае на беларускім магільніку. Няхай са сьвятымі супачывае.

## ПАРАФІЯ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў НЬЮ ЁРКУ

За астатнія тры гады ў Парафіі адбыліся паважныя зьмены, перадусім у чаловым кіравецтве. Па сьмерці Сьв. Памяці Архіепіскапа Васіля — 9-га чырвеня 1970 г., які сам ачольваў Парафію, духоўным кіраўніком Парафіі быў прызначаны новапасьвячаны ў ерэі а. Карп Стар. Праз тры гады а. Карп, ня гледзячы на далёкую адлегласьць ад Нью Ёрку ягонага месца жыхарства, дбала й акуратна поўніў пастырскія абавязкі, даяжджаючы ў Нью Ёрк з маці Вольгаю, сваей спадарожніцай і памочніцай у працы. З часам адкрыцьця яго-ж стараньнем новае Парафіі БАПЦарквы ў Дороты, штату Нью Джэрсі, 9-га верасьня сёлета а. Карп стаў настаяцелем гэтае Парафіі.

Ад дня 16 верасьня 1973 г., па прызначэньні Ўладыкі Мітрапаліта Андрэя, Парафію Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку ачоліў а. Пратаерэй Васіль Кендыш.

3-га чырвеня 1973 г., у Парафіі праводзілася агульнае, усёй БАПЦарквы сьвяткаваньне 800-лецьця ад сьмерці Сьвятой Ефрасіні Полацкай — асьветніцы народу нашага, як рэлігійнай, так і сьвецкай. Сьвяткаваньне ўзглаўлялі Вышэйшыя Дастойнікі БАПЦарквы — Мітрапаліт Андрэй і Епіскап Мікалай. І па 800 гадох постаць Сьвятой Ефрасіні ўстае ў сьведамасьці народу, як добрай ласкавай маці Хрышчонай Народу нашага ды велічнай дбалай працаўніцы й дабрадзейкі. Тут, на эміграцыі, гэта вызначаецца асабліва яскрава, і з асаблівай пашанаю Беларусы Яе успамінаюць, да Яе моляцца, у Ейнае імя будуюць цэрквы.

16-га верасьня сёлета, адбыўся Парафіяльны Сход. Як падае „Царкоўны Пасланец" — мясцовы парафіяльны бюлетэнь, сход разглядаў агульны стан Парафіі, дзейнасьць былой Парафіяльнай Рады, прызнаючы ёй абсолютрыюм з падзякай, пастанавіў выслаць асаблівую падзяку а. Карпу за ягоную адданую службу Царкве й Парафіі, выбраў новую Раду, прыняў неабходныя пастановы дзеля палепшаньня стану Парафіі.

У склад новае Парафіяльнае Рады выбраныя: Міхась Тулейка — старшыня, Аляксандар Міцкевіч — заступнік Старшыні й скарбнік, Інж. Мікола Гарошка — сакратар, Міхась Міцкевіч — царкоўны стараста, Кастусь Верабей — другі скарбнік і памочнік старасты, Мікола Заморскі й Юрка Касьцюкевіч — гаспадарчыя дзейнікі. У Кантрольную Камісію былі выбраныя Др. Уладзімер Набагез, Пётра Манькоўскі й Уладзімер Курыла.

Разглядаючы фінансавы стан і бюджэт Парафіі, Сход лічыў неабходным узьняць гадавую складку з 1-га студзеня 1974 г. да 50 даляраў на год ад працуючага сябры Парафіі, ад іншых 25 даляраў. Павышэньне складак не забясьпечыць усіх выдаткаў Парафіі; як і дасюль, давядзецца зварачацца да ахвярнасьці вернікаў.

Лічбова Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку зусім малая, але выдаткі ня меншыя, як у іншых. Былая Царкоўная Рада за старшынства Інж. Міколы Гарошкі сплаціла 5,000 даляраў доўгу за царкоўны будынак, на што злажыліся парафіяне па 200 даляраў ад сям'і. Сход забавязаў новую Раду сплаціць рэшту доўгу. Тымчасам насьпелі й паважныя рэмонты досыць старога ўжо будынку. У пляне працы неадкладная паправа агравальнае сыстэмы, устанаўленьне ахоўных сетак на вокны першага паверху, ачыстка царкоўнага пляцу і ўстаноўка агарожы з ўсходняга боку будынку, атынкаваньне звонку заалтарнае сьцяны, рэмонт канцылярыі ды іншыя драбнейшыя работы. На выкананьне гэтых рэмонтаў спатрэбіцца паважная сума грошай.

Успомнены „Царкоўны Пасланец" наракае на парафіянаў за слабое наведваньне царквы. Але ня можа наракаць на ахвярнасьць матарыяльную, хоць-жа ў гэтым ня ўсе роўныя, бо й ня могуць быць роўнымі, але маглі-б быць роўнымі ў рупнасьці.

Першыя дзьве, вызначаныя ў пляне працы ўжо выкананыя. Царкоўная Рада спадзяецца, што з Божай дапамогай пры дбаласьці парафіянаў, будуць залагоджаныя й іншыя неабходныя патрабаваньні.

## ПАРАФІЯ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ Ў ГАЙЛЭНД ПАРКУ, Н. ДЖ.

6-га травеня парафіяне разам з сваім Настаяцелем а. Васілём у дзень Радаўніцы наведалі магілы сваіх блізкіх і прыяцеляў на Беларускім Магільніку ў Іст Брансьвіку. Пасьля агульнай Ліціі на магіле Сьв. Памяці Архіепіскапа Васіля, а. Васіль абыходзіў усе магілы, акрапляючы іх сьв. вадою.

20-га травеня Парафія сьвяткавала падвойную ўрачыстасьць: Сьвята Божае Маці Жыровіцкае й 800-я ўгодкі памяці Сьвятой Ефрасіні Полацкай. У гэты дзень Парафію наведаў Яго Высокапраасьвяшчэнства Мітрапаліт Андрэй ды адслужыў Літургію ў асысьце а. а. Васіля й Карпа. Урачыстасьць закончылася супольным абедам. А 3-га чэрвеня Парафія брала ўдзел у агульна-царкоўным БАПЦарквы сьвяткаваньні 800-лецьця ад сьмерці Сьв. Ефрасіні Полацкай.

Парафіяльная Рада, з мэтай папаўненьня касы ладзіла пікнікі на царкоўны пляцы у днёх 29 ліпеня й 19-га жнівеня, як і „запусныя бліны" 11-га сакавіка г. г., а 14-га кастрычніка — традыцыйныя „Дажынкі". 2-га верасьня Сястрыцтва ладзіла вечарыну у залі „Шакаў".

9-га верасьня спэцыяльна нанятым аўтабусам парафіяне наведалі мястэчка Дороты ў паўдзённым Нью Джэрзі, дзе Ўладыка Андрэй у суслужэньні сьвятарства высьвяціў у нованабытым будынку царкву Сьвятой Тройцы.

## „МЭМОРЫЯЛ ДЭЙ" У НЬЮ БРАНСЬВІКУ

Дня 11 лістапада сёлета Ветэраны Замежных Войнаў і мясцовая Ліга Ветэранаў „Гайлэнд Парк — Нью Брансьвік" ушаноўвалі памяць загінутых складаньнем вянкоў на магіле ветэрана з Першае Сусьветнае вайны Джойса Кільмэра на магілках у Элмвуд, Нью Брансьвік. У гэтых урачыстасьцях прымалі ўдзел Беларускія Ветэраны з сваім нацыянальным сьцягам, пад камандай Сяргея Гутырчыка. Аддзел Беларускіх Ветэранаў „Гайлэнд Парк — Нью Брансьвік" належыць да Лігі Амэрыканскіх Ветэранаў.

### Весткі з Кліўленду.

30-га верасьня 1973 г. у гадавіну сьмерці сьв. пам. Архіепіскапа Сяргея — б. кіраўніка Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Уладыка Андрэй з дыяканам Міхалам і з ўдзелам хору адправіў паніхіду за супакой душы Дастойнага Ўладыкі.

***

10-га кастрычніка сёлета, на запрашэньне Настаяцеля парафіі сьв. Тройцы ў Кліўленьдзе, Уладыка Андрэй прымаў удзел у Багаслужбе з Мітрапалітам Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Уладыкам Мсьціславам на ўрачыстым пасьвячэньні адноўленае Царквы.

***

18-га лістапада сёлета прыкладам папярэдніх гадоў, парафія Жыровіцкае Божае Маці ладзіла „Дзень Удзячнасьці". Пасьля сьв. Літургіі ў Царкве быў адпраўлены малебен Удзячнасьці, а ў царкоўнай залі адбыўся традыцыйны абед у часе якога Уладыка Андрэй прачытаў рэфэрат на тэму дня.

***

24-га лістапада Уладыка Андрэй ўдзяліў сьв. Таінства Хросту для дачкі с-ва Паўла й Галіны Каваль.



PRINTED BY: EAST SIDE PRESS, 166 FIRST AVENUE, NEW YORK, N. Y. 10009